ГРОДНА
№22 (574),
5 снежня 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Нязвыклая ў вачах Бога



Беззаганная Маці Божая з'яўляецца для нас узорам прыняцця і выканання волі Бога.

на старонцы 2

## Пескі. Святыня з няпростым лёсам



Касцёл у Песках больш за паўстагоддзя не мог служыць людзям як Божы дом.

на старонцы 4

## Гісторыя аднаго неафіта. "Калі ўжо паспрабуеш, хочацца ізноў адчуваць гэты смак"



Да Бога пралягае шмат сцежак. Герой сённяшняга нумара дайшоў да веры інтэлектуальна.

на старонцы 5

# ДА ВЕРНІКА АД... НЯДЗЕЛЬНАГА КАТОЛІКА



Спадар Анатоль Канарскі падчас сустрэчы каталіцкай супольнасці "Эхад", лідэрам якой з'яўляецца

**Каму патрэбна навяртанне? Мы прызвычаіліся лічыць, што гэта гісторыя пра алкаголікаў, распуснікаў, забойцаў... Мы штотыдзень удзельнічаем у св. Імшы, спавядаемся – можа, нават часцей, чым двойчы на год, перад двума галоўнымі святамі – ды думаем, што і сябе, і Бога пазналі да канца. Аднак як гэта магчыма, калі Бог – бясконцы, а духоўны рост не мае межаў. Дык, можа, навяртанне – гэта пра кожнага з нас?**

на старонцы 3

# КАЛІ НЕШТА НЕ РАЗВІВАЕЦЦА, НЕ РАСЦЕ, ЯНО ПРОСТА ДЭГРАДУЕ



**Вядома, што пост – Адвэнт ці Вялікі пост – гэта перыяд, калі Касцёл, між іншым, праз літургію звяртае нашу ўвагу на духоўнае жыццё чалавека, на месца Бога ў ім.**

на старонцы 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



*Разам з пачаткам Адвэнту мы пачынаем новы літургічны год. Для кожнага чалавека гэта новы этап жыцця, які нібыта чысты аркуш паперы для запісаў. Гэта яшчэ адзін шанс запрасіць Бога ў сваё штодзённае жыццё, таму што мы перажываем Адвэнт менавіта тут і цяпер, дзе знаходзімся: у нашых сем'ях, на месцах працы ці вучобы, карыстаючыся багаццем традыцый і звычаяў.*

*Адвэнтавае чаканне – гэта таямніца, якую варта крок за крокам адкрываць, а не разыгрываць. Аўтэнтычна – як умеем і як можам, не імкнучыся ні да перфекцыянізму, ні да абвінавачвання сябе перад Богам. Езус Хрыстус не прыходзіць да праведнікаў, Ён прыходзіць да грэшнікаў, слабых і кволых людзей, якія мы ёсць на самой справе.*

*Збаўца прыходзіць у свет далікатна, як дзіця, з незразумелай любоўю, супакоем і радасцю, якімі хоча напоўніць нас да краёў. Можна прыняць гэтыя ласкі з удзячнасцю, але можна таксама адхіліць іх і страціць.*

*Давайце добра выкарыстаем кожны момант гэтага святога часу. Няхай нам у гэтым дапаможа патрабавальны, строгі аскет Ян Хрысціцель, а таксама ўнутрана засяроджаная і лагодная Марыя. Яны могуць дапамагчы нам, каб Бог "пасяліўся між намі".*

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**5 снежня**

***II Нядзеля Адвэнту. Дыяцэзіяльны дзень малітвы за ўсіх дабрадзеяў Касцёла.***

*Кожны год у II Нядзелю Адвэнту ўсе парафіі ў Польшчы збіраюць ахвяраванні на асобныя праекты, якія прыходзяць у офіс Супольнасці дапамогі Касцёлу на Усходзе пры сакратарыяце Канферэнцыі епіскапату Польшчы. Сярод тых, хто можа разлічваць на дапамогу, ёсць і Касцёл у Беларусі. Супольнасць дапамогі Касцёлу на Усходзе была створана ў 1989 годзе па ініцыятыве тагачаснага Прымаса Польшчы кардынала Юзафа Глемпа.*

**6 снежня**

***Свята асвячэння катэдральнай базілікі ў Гродне.***

*Кансэкрацыя святыні адбылася 6 снежня 1705 года. Гэты ўрачысты акт здзейсніў біскуп Хэлмінскі Тэадор Патоцкі. На ўрачыстасці прысутнічалі кароль Аўгуст II і цар Пётр I. Будаўнічыя працы ў касцёле скончыліся толькі ў 1772 годзе. Тытул малой базілікі быў нададзены касцёлу папам Янам Паўлам II 15 снежня 1990 года. У наступным годзе касцёл стаў катэдрай новастворанай Гродзенскай дыяцэзіі.*

**7 снежня**

***Успамін св. Амброзія, біскупа і доктара Касцёла.***

*Амброзій нарадзіўся ў Трыры каля 340 года ў рымскай сям'і. Вучыўся ў Рыме, а дзяржаўную кар'еру пачаў у Срыеме (Балканы). У 374 годзе, знаходзячыся ў Мілане, ён быў нечакана абраны біскупам гэтага горада і 7 снежня таго ж года прыняў біскупскую сакру. Аказаўся сапраўдным пастырам і настаўнікам вернікаў, руплівым у выкананні сваіх абавязкаў і поўным любові да ўсіх. Памёр у Вялікую суботу 4 красавіка 397 года.*

**12 снежня**

***III Нядзеля Адвэнту – Нядзеля радасці.***

*III Нядзеля Адвэнту ў Касцёле называецца нядзеляй Gaudete, гэта значыць Нядзеляй радасці. Часам яе яшчэ называюць Ружовай нядзеляй, бо гэта адзін з двух дзён у годзе, калі святар цэлебруе літургію ў ружовых шатах.*

**13 снежня**

***Успамін св. Люцыі, панны і мучаніцы.***

*Люцыя паходзіла з багатай рымскай сям'і з Сіракузаў. Яна была абезгалоўлена ў 304 годзе падчас ганенняў на хрысціян пры імператары Дыяклетыяне, маючы 23 гады. З самых ранніх часоў яе культ распаўсюдзіўся амаль па ўсім Касцёле, а яе імя было ўведзена ў Рымскі канон.*

# НЯЗВЫКЛАЯ Ў ВАЧАХ БОГА

працяг са с. 1

**Ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі Касцёл запрашае ўсіх людзей угледацца ў прыклад звычайнай дзяўчыны, якая была, аднак, нязвыклай у вачах Бога.**

*Кс. Юрый Марціновіч*




*Сакрамант канфірмацыі ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, 2020 г.*

Унікальнасць Марыі заключалася не толькі ў Божай абранасці, але і ў тым, што Яна змагла адказаць на гэты дар паслухмянасцю і бездакорным выкананнем Божай волі. Што яшчэ адрознівала Марыю ад іншых, дык гэта Яе чыстае сэрца і бязмежны давер да Бога. Яна была вялікай, таму што была поўная Бога. Прыклад Беззаганнай кажа нам, што мы вялікія не з-за свайго прозвішча, што яно няпростае. Бог хоча, каб мы далі Яму шанс здзейсніць вялікія рэчы ў нашым пакліканні. Для кожнага чалавека Бог падрыхтаваў план. Ён даў нам таленты і здольнасці, каб мы як мага лепш выконвалі сваё пакліканне. Нам са свайго боку застаецца дазволіць Богу ажыццявіць гэты план. Прыклад Беззаганнай дапамагае і заахвочвае не марнаваць тое, што кожны дзень атрымліваем ад Усемагутнага. І адным з дароў, якія былі нам удзелены, напрыклад, у сакраманце святога хросту, з'яўляецца пакліканне да святасці.

**Папа Пій IX, абвяшчаючы дагмат аб Беззаганным Зачацці Марыі, прызнаў, што Яна не толькі не здзейсніла ніводнага граху, але і была захавана ад агульнай чалавечай спадчыны, якой з'яўляецца першародны грэх.**

якое, магчыма, дасталася нам у спадчыну, не з-за сваёй працы, пасады, ведаў. Мы важныя настолькі, наколькі наша сэрца "поўнае ласкі". Гэта значыць, ці дастаткова яно поўнае Бога і адчувальнае, каб мець магчымасць адказаць "так" на прапанову Пана.

У момант Звеставання Марыя адным сваім словам дазволіла Богу здзейсніць нешта вялікае. І дзякуючы гэтаму Яна заслужыла тытул Беззаганнай. Згода Марыі стаць Маці Хрыста і немарнаванне атрыманай ад Бога ласкі вучыць нас, як у сваім жыцці адказваць Усемагутнаму. Гледзячы на сваё жыццё, мы разумеем,

Марыя Беззаганная вучыць сваіх дзяцей, што святасць – гэта задача не толькі на некалькі гадоў, але на ўсё жыццё, і яна здабываецца праз вернасць свайму пакліканню ў штодзённым выкананні дадзенага слова, нават калі гэта каштуе нам шмат намаганняў і ахвяр. Марыя рэалізавала сваю святасць у простай штодзённасці, кожны дзень пацвярджаючы ўласнае "так" у сваім жыцці. Калі Яна як выбраная сказала "так", ніколі не здраджвала свайму слову, а выконвала яго кожны дзень, служачы Богу.

Кожны з нас быў пакліканы Богам, каб наша жыццё стала штодзённым адказам на тое, што Бог хоча зрабіць для нас. Са свайго боку нам застаецца паверыць, што Бог не карыстаецца чалавечымі "кастынгамі", каб выбраць для спецыяльных заданняў. Ён ведае, як найлепш асвяціць сціплае жыццё простага чалавека. І ўказальнікам на гэтым шляху з'яўляецца выкананне Божай волі.

Маці Божая навучыла многіх святых, як выконваць Божую волю і жыць у святасці. Сярод іх св. Максімліян Кольбэ, вялікі шанавальнік Беззаганнай і апякун нашай дыяцэзіі. Аднойчы а. Максімільян прамаўляў канферэнцыю для манахаў. Гвардыян кляштара ў Непакаланаве казаў сваім братам: "Я хачу, каб вы былі святымі. Сапраўды. Але не абы-якімі святымі. Я хачу, каб вы сталі такімі вялікімі святымі, як Марыя".

Браты з заклапочанасцю глядзелі на а. Максімільяна, які высока паставіў для іх планку. Нарэшце адзін з іх спытаў: "Але як гэтага дасягнуць?". Тады а. Кольбэ падышоў да дошкі і намаляваў крэйдай дзве літары "В" – малую і вялікую. І сказаў: "Гэтае маленькае «в» – наша чалавечая воля, твая і мая. А гэтае вялікае «В» – Божая воля. Калі маленькае «в» і вялікае «В» ідуць насуперак адзін аднаму, гэта дрэнна. Тады пра святасць не можа быць і гаворкі. Але калі мы ставім знак роўнасці, калі падпарадкоўваем нашу волю чалавечую волі Божай, тады святасць магчымая, як у Марыі".

**Урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі святкуем 8 снежня.**

Няхай Марыя будзе для ўсіх нас узорам, як супольна, разам злучыць дзве волі – нашу чалавечую і Божую, а Яе пастава няхай вучыць нас, што Богу варта сказаць "так"!

# ДА ВЕРНІКА АД... НЯДЗЕЛЬНАГА КАТОЛІКА

працяг са с. 1

*Ангеліна Марцішэўская*



*Анатолю 38 гадоў, ён працуе ў сферы IT і, акрамя кіравання супольнасцю “Эхад”, ладзіць іншыя духоўныя ініцыятывы, напрыклад, “Сужэнкі курс”*

### “ВАЖНА БЫЦЬ СЯРОД ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ НА АДНОЙ ХВАЛІ З ТАБОЙ”

Анатоль большую частку свайго жыцця быў практыкуючым католікам: прыняў належныя сакраманты, у кожную нядзелю ўдзельнічаў у св. Імшы, па пятніцах – пост. Нібы ўсё ў парадку, але на жыццё не ўплывае. ***“Аднак Бог знайшоў шчыліну, праз якую змог да мяне дастукацца. Мая жонка паходзіць з набожнай каталіцкай сям’і, і каб заслужыць давер, я пачаў больш адказна ставіцца да рэлігійных практык. Рабіў гэта дзеля яе, а Госпад дзейнічаў праз яе”***, – распавядае мужчына.

Як адзначае сам Анатоль, аднойчы жонка адправіла яго на рэкалекцыі для мужчын. Ён пайшоў, слухаў і – пачуў. ***“Падчас духоўных практыкаванняў мяне кранулі пэўныя словы. Пад уражаннем, пасля заканчэння я пабег хутчэй у «Баторыю»*** *(бліжэйшы да касцёла пункт з абменам валют – заўв. аўт)****, каб прадаць долары, што былі з сабой, і купіць усю літаратуру, якую ксёндз прапанаваў набыць напрыканцы рэкалекцый”***, – узгадвае Анатоль.

Пазнанне Бога пачалося для мужчыны даволі празаічна: першая з кніг, што ён набыў у той вечар, мела назву “Як палюбіць цешчу”. Госпад пачаў далікатна ўваходзіць у штодзённасць. Пасля прачытання ўсёй літаратуры, Анатоль зразумеў – яе няма з кім абмеркаваць. Магчыма, тады вернік спасціг асноўную думку – для духоўнага развіцця католіку патрэбна супольнасць. Да супольнасці мы пакліканы і праз вучэнне Біблії.

Менавіта жывыя сведчанні людзей побач і сумесныя разважанні з аднадумцамі ў рамках руху “Мужчыны св. Юзафа” адкрывалі Анатолю асобу Бога і дапамаглі паверыць, што змяніць жыццё ў тых сферах, дзе хочаш яго змяніць, – магчыма. ***“Меў месца і пераломны момант. Я быў дома адзін, адпачываў на ложку пасля выпітага піва, калі мной моцна авалодала думка аб раскаянні. Мне не падабалася ідэя маліцца пасля алкаголю, таму я проста прамовіў: «Божа, мне патрэбна дапамога, каб падняцца (з грахоў)». І маё цела падае на падлогу, а я пачынаю каяцца нават у тых правінах, што раней і не лічыў грахамі. Гэты эпізод можа падацца містычным, але ж падобныя моманты здараюцца на працягу ўсёй гісторыі існавання Касцёла”***, – адзначае вернік.

Перамены, што адбываліся ў Анатолю, заўважалі і ў яго акружэнні. Мужчына ўвогуле перастаў лаяцца матам, што ў калектыве будаўнікоў было дзівам і часам выклікала ўсмешку. ***“Калі прыбраў мацюкі, злавіў сябе на думцы, што мне не хапае літаратурнага запасу, каб камунікаваць з калегамі. І я пачаў шмат чытаць”***, – дадае Анатоль.

***“Паказальнай у справе даверу Богу з’яўляецца для мяне і сітуцыя з дочкамі, з якімі мне было вельмі цяжка навязаць кантакт. Я штучна цікавіўся, як іх справы, і не сустракаў рэакцыі,*** – шчыра дзеліцца мужчына. – ***Атрымаў падказку таксама дзякуючы працэсу пазнання Госпада. Слухаючы аднаго з духоўных лідараў, пачуў пра практыку «спатканняў». Цяпер раз у год я па чарзе запрашаю сваіх дачок на рандэву: кожная сама выбірае месца, меню, а пасля – кветкі. З адной ідзём у піцэрыю, з другой – у «Бургер Кінг», пасля адна просіць палявыя кветкі, другая – ружы. Я слухаю, адказваю на іх упадабанні і атрымліваю шчырыя расповеды пра іх надзённасць. Цяпер штораз пасля працы мяне сустракаюць цёплыя абдымкі”***.

Як прызнаецца мужчына, да навяртання ён успрымаў Бога як паліцэйскага, які не чапае цябе, пакуль ты выконваеш правілы, а калі што – адразу карае. Цяпер Госпад для яго – гэта любячы Айцец, які працягвае руку чалавечай слабасці і дапамагае выправіцца. ***“З кожным годам вобраз Бога ў маіх вачах становіцца шырэйшы. Калі думаю, што адчыняю апошнія дзверы, аказваецца, што за імі яшчэ тры дзвярных праёмы…”***, – падсумоўвае Анатоль.

### ВЯРНУЦЬ МУЖНАСЦЬ У КАСЦЁЛ

Гісторыя Анатоля выклікае зацікаўленасць таксама па той прычыне, што мы прызвычаіліся: разважаць пра прыгажосць Бога – па жаночай частцы. Не патрэбна афіцыйная статыстыка, каб убачыць, што ў нашым Касцёле сярод свецкіх вернікаў большасць складаюць жанчыны. Таму і актыўная пазіцыя ў парафіі – гэта амаль заўсёды жанчына. Анатоль, зыходзячы з уласных назіранняў, мае сваё меркаванне наконт пасіўнасці мужчын.

***“Па-першае, убранне святынь. Гэта цяпер як чалавек, які спазнаў Бога, я разумею, што інтэр’ер касцёла – нібы алегорыя Рая. Але часцей за ўсё для ўспрыняцця мужчыны яно надта пяшчотнае, надта салодкае і, як следства, надта адцягваючае ўвагу ад сутнасці. Раней я увогуле адчуваў сябе ў святыні, як у тэатры.***

***Па-другое, пропаведзі. Большасць з іх прысвечана тэме Божай міласці і любові. Канешне, пра гэта трэба казаць! Але мне як мужчыне важна пачуць, што Госпад можа не толькі па галоўцы пагладзіць, але і падказаць! Напрыклад, хлопец, які страціў працу і атрымаў прапанову «чорнага бізнесу», прыходзячы ў касцёл, хацеў бы зарыентавацца, як яму выходзіць з гэтай сітуацыі.***

***Таксама вялікі акцэнт у казаннях ідзе на тое, «чаго рабіць нельга», а мужчыне патрэбны адказ, «што яму дазваляецца рабіць». Разам з тым важна не баяцца падымаць тэмы, асабліва блізкія мужчынам: улада, грошы, секс... Калі дашлюбныя зносіны – дрэнна, раскласці па паліцах, чаму.***

***Па-трэцяе, ізноў жа, супольнасць. Важна, каб, напрыклад, пры парафіі існавала ініцыятыва сумеснага служэння святара і вернікаў. Каб падчас рэкалекцый ксёндз не проста казаў «Бог цябе любіць», але каб гэтыя словы падмацоўваліся канкрэтнымі сведчаннямі. Не «Джона з Амерыкі», а знаёмага Пеці. Асабістае дзяленне б’е непасрэдна ў мэту”***, – дзеліцца мужчына.

### “КАСЦЁЛ НЕ НАЛЕЖЫЦЬ ІЕРАРХІІ. КАСЦЁЛ – ГЭТА ЦЕЛА, І МЫ ЎСЕ ЎНУТРЫ ЯГО”

Цэнтрам духоўнага жыцця вернікаў з’яўляецца ўдзел у св. Імшы. Аднак немагчыма зразумець літургію, не спазнаўшы Бога: гэта цяжка зрабіць як няверуючаму, так і “нядзельнаму католіку”. ***“Часта святарства імкнецца прывабіць чалавека да Госпада праз літургію. Зразумела, св. Імша – гэта кульмінацыя. Але людзям спачатку патрэбна прастата паняцця. Напрыклад, я цікаўлюся футболам. Прыходжу ў Акадэмію маскоўскага ЦСКА, і мяне адразу ставяць гуляць супраць галоўнага саперніка, «Спартака». Канешне, я нічога не змагу зрабіць. А вось калі я спачатку прайду школу, дзе мне растлумачаць, што такое мяч, як правільна ставіць нагу, тады і гуляць я буду як прафесіянал”***, – разважае Анатоль.

Мужчына лічыць, што такой школай для католікаў з’яўляецца супольнасць, галоўная задача якой даваць адказы на ўзнікаючыя пытанні. Калі супольнасць паўстае на парафіяльным узроўні, яе заўсёды папярэдне зацвярджае біскуп. Аднак гэта не значыць, што ініцыятыва зыходзіць ад пробашча ці вікарыя. ***“На працягу доўгага часу я песціў думку аб тым, каб пры маёй парафіі ўзнікла супольнасць. Мы з жонкай і іншымі сужэнскімі парамі маліліся ў гэтай інтэнцыі на працягу пяці гадоў. І калі прыйшло ўсведамленне, што Касцёл – гэта мой дом, я пачаў дзейнічаць. Не трэба чакаць святара, на якім і так безліч абавязкаў, ад духоўных да бытавых. Маеш ідэю? Прапануй святару, заслужы давер у гэтай справе і рэалізуй! Тое самае казаў біскуп Станеўскі моладзі нашай парафіі падчас удзялення сакраманту канфірмацыі: «Ідзіце з ініцыятывамі да ксяндзоў!»”***, – распавядае вернік. Так у выніку абмоленай інтэнцыі, распрацаванай ідэі і адабрэння пробашча ўзнікла супольнасць “Эхад”. Вернікі разам пазнаюць Бога праз вывучэнне і разважанне Святога Пісання, моляцца адзін за аднаго і даюць сведчанні. Раз у квартал збіраюцца на адарацыі.

***“Сярод нас ёсць і дзеці, і пенсіянеры. Далучыцца можа кожны ахвотны. Адкрытыя сустрэчы праводзім раз на месяц. Сведчанні ў жаночых і мужчынскіх групках – раз на тыдзень. Каб стаць удзельнікам маленькай групы, трэба паўгода хадзіць на адкрытыя сустрэчы. Так і пастаянныя ўдзельнікі больш адкрытыя на сведчанні, і новыя не саромеюцца дзяліцца”***, – падкрэслівае Анатоль.

На заканчэнне лідар супольнасці адзначае, што служэнне пачынаецца з малога. Уласнае мужчына распачаў, раўняючы крэслы перад сустрэчамі супольнасці, членам якой некалі быў.

### ФОРМУЛА МАЛІТВЫ АД АНАТОЛЯ:

**Не засяроджвайцеся выключна на “дай мне тое, дай мне сёе”. Станьце перад Богам у праўдзе. Так як у Псальмах Давіда: хочаце славіць Госпада – слаўце; хочаце ўзбунтавацца на бліжняга, бо ён няправы – распавядзіце пра гэта Богу замест абяцанняў маліцца за ворага. Дзяліцеся з Ім турботамі і радасцямі, будуйце дыялог. Нябесны Айцец прагне аднosін, і Яму важная кожная дробязь.**

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Святы Айцец стварыў дыяцэзію ў самым бедным раёне Каракаса

Святы Пасад абвясціў аб стварэнні новай дыяцэзіі Петарэ ў Венесуэле. Яна паўстала на тэрыторыі самай беднай часткі сталічнай архідыяцэзіі. Адначасова папа Францішак прызначыў першага пастыра новай касцёльнай адзінкі. Ім стаў 56-гадовы біскуп Хуан Карлас Брава Салазар.

Заснаваны ў 1621 годзе горад Петарэ з’яўляецца часткай агламерацыі Каракас. Ён лічыцца адным з самых буйных у Лацінскай Амерыцы раёнаў беднасці.

Паводле звестак Святога Пасаду, новая дыяцэзія займае плошчу ў 177 кв. км, на яе тэрыторыі пражывае каля 760 тыс. чалавек, налічваецца 23 парафіі з 57 святарамі, сярод якіх 12 дыяцэзіяльных і 45 законных, а таксама 129 манахінь і 5 семінарыстаў.

### У Ватыкане агучылі тэму 55-га Сусветнага дня міру

“Адукацыя, праца, дыялог паміж пакаленнямі: інструменты для пабудовы трывалага міру” – так будзе гучаць тэма Сусветнага дня міру, які адзначаюць у Касцёле 1 студзеня 2022 года.

У паведамленні Дыкастэрыі па служэнні інтэгральнаму развіццю чалавека звяртаецца ўвага на кантэкст абрання папам Францішкам менавіта такой праблематыкі. Ён прапануе “інавацыйнае чытанне” знакаў часу, якое адпавядае патрэбам сённяшняга дня і будучыні, а таксама дапаможа супрацьстаяць “новым і старым праблемам”.

У тэксце прэзентацыі тэмы фармулюецца некалькі пытанняў: як адукацыя і выхаванне могуць ствараць трывалы мір? Ці праца ў свеце больш або менш адпавядае жыццёва важным патрэбам чалавека ў справе справядлівасці і свабоды? Ці пакаленні сапраўды салідарныя паміж сабой? Ці вераць яны ў будучыню? Ці ўдаецца грамадскім лідарам у гэтым кантэксце задаць гарызонт прымірэння?

### Ватыканскія музеі выклажылі ў адкрыты доступ унікальныя фота

Ватыканскія музеі рэалізавалі чарговую анлайн-ініцыятыву, прысвечаную малавядомай дагэтуль гістарычнай фатаграфічнай спадчыне. Для экспанатаў характэрна ўнікальнасць матэрыялаў, у тым ліку ў тэхналогіі іх выканання, – гэта фотапласціны на шкле. Папскія музеі вось ужо некалькі гадоў праводзяць мерапрыемствы па захаванні, рэстаўрацыі, архівацыі і аблічбоўцы сваёй фатаграфічнай калекцыі. На здымках – віды, пейзажы, палацы і помнікі Рыма, а таксама іншых італьянскіх і замежных гарадоў. Калекцыя пастаянна папаўняецца, дзякуючы прыватным асобам.

### Малітоўныя інтэнцыі на снежань

**паўсюдная**

Молімся за катэхетаў, пакліканых абвяшчаць Божае слова, каб былі яго мужнымі і крэатыўнымі сведкамі з моцай Святога Духа.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў сужэнцаў і сем’і.

# БІСКУП КАШКЕВІЧ БЛАСЛАВІЎ ЗЯМЛЮ ПАД БУДАЎНІЦТВА НОВАГА КАСЦЁЛА Ў ГРОДНЕ


grodnensis.by

**21 лістапада, ва ўрачыстасць Пана нашага Езуса Хрыста, Валадара Сусвету, у мікрараёне Баранавічы ў Гродне біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч благаславіў зямлю пад будаўніцтва новага касцёла і ўсталяваны на ёй крыж.**

*grodnensis.by*

На ўрачыстасці сабраліся вернікі парафіі бл. Мар'яны Бярнацкай, якія разам са сваім пробашчам кс. Юрыем Марціновічам з малітвай распачалі справу пабудовы парафіяльнай святыні, а таксама госці, сярод якіх былі святары, манаскія сёстры, прадстаўнікі суседняга праваслаўнага прыхода на чале са сваім настаяцелем.

У намёце на месцы, дзе будзе ўзведзены касцёл бл. Мар'яны, адбылася першая св. Імша, цэлебрацыю якой ўзначаліў біскуп Кашкевіч. Вітаючы іерарха, прадстаўнікі парафіі падкрэслілі, што для іх гэта гістарычная хвіліна, а гэты дзень упішацца ў гісторыю маладой парафіі, апякункай якой з'яўляецца смелая жанчына, мужная хрысціянка і гераічная мучаніца.

Парафія бл. Мар'яны Бярнацкай у Гродне была заснавана дэкрэтам біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча ў 2019 годзе. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі парафіі падпісана ва ўрачыстасць Усіх Святых 1 лістапада таго ж года. У склад парафіі ўваходзяць гродзенскія мікраараёны Ласосна і Баранавічы, а таксама вёска Тарусічы.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**КІТАЙ.** "Катэхеты павінны быць «хрысціянамі новага часу» і сведкамі Хрыста ў сучасным кітайскім грамадстве", – падкрэслівалася на шостым Курсе для свецкіх катэхетаў, якія працуюць у сямі дыяцэзіях правінцыі Сычуань. Курс стаў адказам на Апостальскі ліст "Antiquum Ministerium", якім папа Францішак устанавіў у Касцёле паслугу катэхета. Удзельнікам з мацерыковай часткі Кітая прачыталі лекцыі па катэхетыцы, касцёльным вучэнні, літургіі і сакрамантах, каталіцызме ў Кітаі, мясцовай культурнай традыцыі і рэлігійнай інкультурацыі.

**ЗША.** Епіскапат ЗША на сваім пленарным пасяджэнні, што праходзіць у Балтыморы, прыняў дакумент "Таямніца Эўхарыстыі ў жыцці Касцёла", у якім гаворыцца пра асаблівую адказнасць надзеленых уладай католікаў за захаванне вучэння Касцёла. Ідэя тэксту была прапанавана пасля прэзідэнцкіх выбараў 2020 года некаторымі іерархамі, якія ўбачылі неабходнасць заняць выразную пазіцыю ў адносінах да "прэзідэнта-католіка, які выступае супраць вучэння Касцёла". У дакуменце, прынятым біскупамі, не ўтрымліваецца выразных спасылак на нейкага канкрэтнага палітыка і не разглядаецца мэтазгоднасць адмаўлення ў прыняцці св. Камуніі грамадскім дзеячам, якія прытрымліваюцца пазіцый, што не адпавядаюць этычнаму вучэнню Касцёла. Аднак у ім сцвярджаецца, што "католікі, якія займаюць кіраўнічыя пасады, нясуць асаблівую адказнасць за захаванне вучэння Касцёла".

**ГАІЦІ.** Двое з сямнаццаці місіянераў амерыканскай хрысціянскай дабрачыннай арганізацыі "Christian Aid Ministries", выкрадзеных больш за месяц таму, былі вызвалены. У апублікаваным паведамленні арганізацыі не раскрываюцца акалічнасці вызвалення выкрадзеных місіянераў і іх імёны. Таксама невядома, ці быў выплачаны выкуп. Місіянераў выкрала мясцовая банда Мавоза. Яе кіраўнік пагражаў забіць заложнікаў, калі не будзе заплачаны мільён долараў выкупу за чалавека.

**АЎСТРЫЯ.** Бэтлеемскае святло міру ўжо знаходзіцца ў Аўстрыі, як паведамляе ініцыятар гэтага мерапрыемства. Пандэмія COVID-19 не перашкодзіла культываванаму ўжо шмат гадоў традыцыйнаму запальванню святла ў Бэтлеемскай пячоры. Звычайна ў сярэдзіне снежня святло запальвалася на аўстрыйскім тэлебачанні і ў рамках экуменічнага набажэнства ў Вене яго перадавалі скаўтам з краіны і замежжа, у розныя месцы Еўропы, а таксама ў ЗША і некалькі лацінаамерыканскіх краін. У мінулым годзе ў набажэнстве перадачы святла ў Зальцбургу ўжо не маглі ўдзельнічаць замежныя дэлегацыі. Бэтлеемскае святло развозілі аўстрыйскія скаўты "ў эстафеце" да межаў краіны.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ПЕСКІ. СВЯТЫНЯ З НЯПРОСТЫМ ЛЁСАМ

*працяг са с. 1*

*Андрэй Вашкевіч*

Пескі заўсёды знаходзіліся на важных шляхах. З поўдня на поўнач у даўнія часы праз гэтае мястэчка праходзіў каралеўскі шлях з Кракава ў Вільню, а па Нёмане з усходу на захад ішлі караблі з таварамі на Коўна і Каралевец. Размешчаныя на вялікай пясчанай выспе, утворанай рукавамі Зальвянкі, Пескі спачатку былі вялікім дваром, які належаў то Хаткевічам, то Сангушкам, то Сапегам... У 1680-ых гадах у Песках з'явіўся першы драўляны касцёл Узнясення Найсвяцейшай Панны Марыі. Гаспадарамі святыні былі айцы дамініканцы з Дзярэчына, які ў той час, таксама як і Пескі, належаў Сапегам, але самастойнай парафіі тады не было.

У канцы XVIII стагоддзя небагатае мястэчка, да таго ж заселенае, галоўным чынам, іудзеямі, было пакінута дамінканцамі. Іх драўляны касцёл у 1801 годзе быў пераасвечаны і стаў парафіяльнай святыняй. Драўляны касцёл прастаяў яшчэ многа дзесяцігоддзяў. Гэта быў крыты дранкай храм, збудаваны ў выглядзе крыжа, у якім было акно пяць алтароў і дзве вежачкі. Спераду святыню ўпрыгожвала галерэя з разной балюстрадай над уваходам, якая абапіралася на чатыры слупы. Побач знаходзілася вялікая драўляная званіца, адзін са званоў на якой нават выбіваў гадзіны.

У другой палове XIX стагоддзя местачкоўцы пабудавалі новы касцёл, стары яшчэ некаторы час стаяў побач. Аднак новая святыня згарэла праз некалькі гадоў, а справа пабудовы мураванага касцёла зрушылася з месца толькі ў 1896 годзе. Тады святар са Струбніцы кс. Кляпацкі звярнуўся да ўлад з хадайніцтвам адносна будаўніцтва новага касцёла для больш чым пяцісот каталікаў мястэчка. Мясцовыя ўлады не вельмі прыхільна паставіліся да гэтай ідэі, аднак гродзенскі губернатар Святаполк-Мірскі дазволіў узводзіць касцёл.

У 1901 годзе пад кіраўніцтвам інжынера Вільгельма Срокі быў закладзены падмурак, аднак скончылі касцёл толькі ў 1915 годзе, калі энергічны кс. Аляксандр Гайдук давёў справу будаўніцтва да лагічнага завяршэння. Неўзабаве падчас баёў І Сусветнай вайны святыню моцна пашкодзілі артылерыйскія снарады. Менавіта тады яна страціла сваю вежу з бутавага каменю.

Больш за дзесяць гадоў касцёл прастаяў у заняпадзе, і толькі каля 1930 года ў ім ізноў пачаліся набажэнствы. У 1945 годзе святыню зачынілі, і чарговыя чатыры дзесяцігоддзі яна выкарыстоўвалася як збожжасховішча. Можа, не самае горшае прызначэнне для святыні, якую, прынамсі, не разбурылі, але выйшла так, што за сто гадоў свайго існавання касцёл у Песках больш за паўстагоддзя не мог служыць людзям як Божы дом.

Затое сёння, вернуты каталікам, ён прыцягвае ўвагу кожнага падарожнага. Арыгінальныя як матэрыял – абшліфаваны палявы камень, – так і выгляд касцёла, форма вокнаў і некаторых частак сцен выклікаюць асацыяцыі з сярэднявечным замкам дзе-небудзь у Шатландыі. Прычым калі першае знаёмства са святыняй пакідае ўражанне нейкай змрочнасці, то пасля таго, як з-за хмар вызірае сонейка і рознакаляровыя камяні пачынаюць блішчаць кожны па-свойму, настрой адразу паляпшаецца і рука так і цягнецца, каб дакрануцца да сцен. Нездарма касцёл у Песках меў такую няпростую гісторыю.


А. Вашкевіч

*Знешні выгляд парафіяльнага касцёла ў Песках*

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО НЕАФІТА. “КАЛІ ЎЖО ПАСПРАБУЕШ, ХОЧАЦЦА ІЗНОЎ АДЧУВАЦЬ ГЭТЫ СМАК”

працяг са с. 1



**Базавае права свабоды сумлення адлюстроўваецца ў большасці канстытуцый і асноўных законаў ва ўсім свеце. Падаецца, пераважная частка чалавецтва лічыць, што сустрэча з Богам – гэта заўсёды вельмі інтымная справа. Тут не працуюць загады і прымушэнне. У сённяшнім нумары размаўляем з Сяргеем Вільчэўскім, інжынерам з Мінска, пра доўгі пошук і вынік шматгадовай працы па пошуку Бога.**

Арцём Ткачук

*– Сяргей, распавядзі, калі ласка, пра сваю дарогу да веры. Якой яна была?*

– З дзяцінства ў маёй галаве былі пытанні: “Як жыць?”, “Навошта людзі працуюць, а пазней старэюць і паміраюць?”, “Як выбраць жонку?”. Да гэтага дадаваліся глабальныя пытанні тыпу “У чым сэнс жыцця?”. Вельмі цяжка было ўсведамляць, што жыццё складаецца з таго, што ты паеў, паспаў, павучыўся, схадзіў на працу, зарабіў грошы, патраціў грошы.

Калі я прыехаў у Мінск, здымаў пакой у веруючай сям’і. Я пачаў бачыць, што гэтыя людзі асаблівыя. У іх адносінах шмат міласэрнасці, яны маглі сварыцца, але пасля мірыліся. Дома гучалі словы “прабач”, “ці можна”, “калі ласка”. Яны былі вельмі далікатныя і адначасова праўдзівыя, добра ставіліся да мяне. Гэты кантраст я бачыў менавіта адносна няверуючых людзей, якія мяне атачалі тады.

Я стаў цікавіцца іх верай, чаму яны ходзяць у касцёл. Ад хрышчэння я быў каталікам, але ўсё заканчвалася менавіта маім веданем, што я каталік. На той момант думалася: “О, гэтыя людзі таксама каталікі. Добра, калі так супала”. Менавіта яны запрасілі мяне калісьці ў касцёл. Я пабываў там, пазнаёміўся з іншымі аднагодкамі, і яны мне спадабаліся. Гэта былі не тыя людзі, з якімі я сябраваў у школе, у каледжы ў Лідзе, якіх сустракаў у сваім двары.

Веруючыя мне падабаліся больш. Таму я хацеў даведацца, чым яны жывуць, чаму яны такія. Пакрысе пазнаваў пра Бога, пра вучэнне Касцёла, што гэтыя людзі спавядаюцца, што слухаюць Божае слова, што ёсць вельмі разнастайныя малітвы, а таксама што Касцёл заклікае вернікаў да спантаннай малітвы сваімі словамі, так, як ляжыць на сэрцы, а не па кніжцы. Так пачыналіся мае крокі да веры.

Памятаю такую гісторыю. Прыехалі мы з веруючым сябрам у капліцу, якая была тады ў будынку ЖЭСа. Гэта мікрараён Лошыца ў Мінску. На св. Імшы быў нейкі новы святар, былі рэкалекцыі. Ён задаў такое вельмі простае пытанне: “Калі скончыцца жыццё і мы прыйдзем да Бога, што мы Яму скажам?”. Гэта мяне кранула, ажно заплакаў тады. Магчыма, гэтае пытанне мяне хвалявала, але я яго не ўсведамляў.

Так склалася, што мы з сябрам пасля падвозілі гэтага святара на машыне. Я глядзеў на яго і разумеў, што гэта звычайны чалавек, але не мог уцяміць, чаму яго словы так мяне кранулі. Я здагадваўся, што справа не ў чалавеку – ён проста выконвае сваю прафесію. І зразумеў: ёсць штосьці звыш чалавечага, што кранае маё сэрца. Тады я прыняў рашэнне, што буду пастаянна хадзіць у касцёл, каб слухаць казанні, слухаць Божае слова і адтуль чэрпаць сэнс жыцця.

*– Што ў гэтым пошуку больш рухала Табой? Інтэлект ці сэрца?*

– Спачатку я разважаў больш інтэлектам, шмат чытаў, задаваў пытанні. Гэта вялікая смага хрысціянскіх ведаў прывяла мяне ў катэхэтычны каледж і ў псіхалогію. Аднак пазней зразумеў, што ў нейкі момант інтэлект робіцца бяссільным. Усе веды і ўсё, што я прачытаў, становіцца бездапаможным, яно вельмі сухое. Яно корміць мозг, а не сэрца.

У псіхалогіі ёсць тэрмін “інтэлектуальная гіперкампенсацыя”, ці проста “інтэлектуалізацыя” – калі штосьці перажываеш і, замест таго, каб падзяліцца з блізкім, пачынаеш, напрыклад, пра гэта чытаць, разважаць. Не ўмеючы абыходзіцца са сваімі эмоцыямі, мы кампенсуем гэта розумам. Карацей кажучы, тое, што павінна перажывацца ў сэрцы, спрабуем кампенсаваць галавой. Але Бог крыху не так стварыў унутраны свет чалавека. Сам Езус плакаў, радаваўся, тужыў. Ніякая інфармацыя не заменіць чалавечых адносін, усмешак і абдымак. Нішто не заменіць споведзь, калі ты прызнаеш свае грахі перад чалавекам, хоць разумееш, што і ён тут сядзіць па волі Бога, і ты. Мы абодва спаўняем Божую волю ў канфесіянале.

Таму ў нейкі момант я пачаў не разумець, а менавіта перажываць: сэрцам, больш поўна. І тут я не заўсёды магу патлумачыць, чаму яно – маё сэрца – гэта хоча рабіць, а гэтага не хоча. Альбо чаму я засмучуюся ў нейкай сітуацыі, калі, здаецца, не было значнай на тое прычыны. Цяпер я больш стаў прымаць і радасць, і смутак, а гэта залежыць ад маіх адносін як з Богам, так і з людзьмі.

*– Чаму Ты выбраў менавіта Каталіцкі Касцёл?*

– Памятаю, быў такі момант, калі я думаў, паводле вучэння якой Царквы мне жыць. У пэўны час зацікавіўся і праваслаўнай верай, і пратэстанцкі позірк мяне прывабліваў, і, вядома, шмат быў у Каталіцкім Касцёле. Пасля зразумеў, што мы не можам выбраць усяго, што не мушу адразаць той корань, з якога вырас. Таму вырашыў не прымаць ніякіх рашэнняў. За мяне Бог, ці, можна сказаць, абставіны, ці мае бацькі ўжо выбралі. Мой лёс склаўся вакол каталікаў. Я змірыўся, што гэтага мне хопіць для збаўлення.

> **Сяргей Вільчэўскі** – інжынер. Прыйшоў да веры падчас вучобы ва ўніверсітэце. Скончыў Мінскі тэалагічны каледж і Акадэмію паслядыпломнай адукацыі па спецыяльнасці псіхалогія.

*– Разам з тым, калі Ты прыйшоў у Касцёл, Твой пошук працягваўся. Пачалася вучоба ў тэалагічным каледжы. Што працягвала рухаць Табой?*

– Мне заўсёды чагосьці не хапае, і праблема ў тым, што не ведаю, чаго дакладна хачу. Гэта як, пакуль не пакаштуеш, якога смаку, напрыклад, манга, не даведаешся, падабаецца яно табе ці не. Калі ўжо пакаштуеш, то ведаеш, што яно вельмі смачнае. Таму хочацца раз на нейкі час з’есці манга, каб ізноў адчуць тую асалоду. Але немагчыма пакаштаваць усё на свеце. Таму ў рэлігійных пытаннях я не заўсёды ведаю, што б паспрыяла маёй веры і збаўленню.

У пэўны момант свайго духоўнага жыцця я спыніўся і ўжо не ведаў, куды ісці далей. Мною рухала туга па чымсьці новым, прагненне развівацца, спасцігаць невядомае, эксперыментаваць. Так я і апынуўся ў каледжы.

*– А пазней прыйшла цікавасць да псіхалогіі?*

– Калі ў Бога пытаешся, Ён часта мае адказ, які немагчыма прадугледзець. Так да 25-ці гадоў я не мог нават уявіць, што псіхалагічныя веды мне ўвогуле патрэбныя. Таксама адна знаёмая, з якой мы разам вучыліся, адназначыла: “Калі б хто калі сказаў, што мне патрэбна псіхалогія, я б даўно яе вучыла і зрабіла б шмат карысных высноў”.

Таму Бог адкрыў мне сферу псіхалогіі, якая дапамагла зразумець самога сябе, свае паводзіны і рэакцыі. Што таксама дало магчымасць прымаць іншых людзей і іх асабістасці.

Дзякуючы гэтаму ў пэўны момант я зразумеў, што маё далейшае развіццё можа быць больш плённым менавіта ў сужэнстве, чым у нейкім іншым спосабе жыцця. Гэта штосьці невядомае, што палохае з-за недахопу ведаў і вопыту, але і бласлаўленне, сакрамант Божы. Гэта і блізкія адносіны, каханне, і вернасць да смерці. Я разумею, што тут можна развівацца. Акрамя развіцця сужэнства будзе таксама шлях бацькоўства.

*– Св. Аўгусцін пісаў: “Я шукаў Цябе, Божа, і Ты дазволіў мне знайсці Цябе”. Як бы Ты апісаў свае адносіны з Богам сёння, аглядаючыся на пройдзены шлях?*

– Мой перыяд неафіцтва быў вельмі эмацыянальны, там было шмат мітусні, хваляванняў.

Падаецца, у св. Ігнацыя Лаёлы ёсць нейкія крокі, дзе спачатку адракаешся ад граху, пасля хочаш быць бліжэй да Бога, а потым ідзе паяднанне з Богам, жаданне быць заўсёды з Ім, незалежна ад абставін.

Цяпер для мяне важна слухаць Бога. Калі Ён ёсць у кожным чалавеку, то трэба ўмець Яго слухаць і не ганяцца за Ім. Таму мае адносіны з Богам сёння больш ціхія, там больш асабістыя словы і пачуцці. Сёння для мяне важна захоўваць пастаянства кірунку. Мой рух веры стаў больш адданым і спакойным. Для прыкладу, гэта азначае быць ва ўсіх справах з маёй жонкай, абмяркоўваць усё, пазнаваць з ёй новае і невядомае.

Таксама для мяне сёння важна г. зв. “абуджэнне волі”. Бывае, жыццё само кудысьці ідзе і ты проста згаджаешся, што кожны дзень адбываецца. Калі так жыць, жыццё падобнае на штосьці, што гойдаецца на ветры – куды дзьме вецер, туды і чалавек. “Абуджэнне волі” дапамагае штодня самому выбіраць накірунак, ісці туды, куды мне трэба, незалежна ад накірунку ветру. Калі трэба ў краму, мы даходзім туды, нягледзячы на надвор’е, стан нашых чаравікаў і адлегласць. Гэтак і ў асабістым жыцці: трэба захоўваць выбраны накірунак.

Таму адносіны з Богам сталі таксама больш працяглымі. Новы дзень цяпер не з’яўляецца новым жыццём, а адной мелодыяй, адным малюнкам. Канешне, я застаюся слабым чалавекам. Часам, калі дзьме моцны вецер, я спыняюся. Але, калі ён перастае, я працягваю рухацца ў тым жа накірунку.

# БОГ – ЛЮБЯЧЫ ТАТА



Сяргей Раюнец

Набліжаецца ўрачыстасць Нараджэння Хрыста. Да яе мы ідзём праз час чакання, які дапамагае нам дарасці да таямніцы Божага Нараджэння.

І гэты перыяд, і гэтае свята нагадваюць мне пра час чакання нараджэння нашага сына Марка. Чаканне поўнае любові, даверу і смеласці, але таксама і страху.

Раней, калі я чуў, як казалі, што Бог з’яўляецца любячым Татам, заўсёды меў з гэтым праблемы. Адчуваў, што гэта важная праўда, але ніяк не мог зразумець, што яна значыць. Перад вачыма не было прыкладу бацькі, так што з майго вопыту “тата” – гэта якраз адсутнасць таты. Ён не вучыў мяне быць смелым і адказным. Не ўводзіў у дарослае жыццё, кажучы, што зараз я мужчына. І мне было незразумела, сумна, а часам і роспачна ад пытання, як адчуць праўду бацькоўства Бога?

Таму я рабіў лепшае, што можна зрабіць у такой сітуацыі: задаваў гэтае пытанне Богу. Так і казаў: як я магу зразумець, што Ты Тата, калі ў мяне перад вачыма не было прыкладу таты?

Пан пасылаў на мой шлях добрых святароў, у тым ліку грэка-католікаў, якія былі жанатыя, і я стараўся ўпітваць іх прыклад, хаця гэтага і мала.

Ішоў час. Бог даў мне добрую жонку. І перада мной вострa стала наступнае пытанне: як я сам змагу стаць добрым бацькам, калі не разумею, што значыць ім быць? І гэта нараджала страх, часам вельмі інтэнсіўны. Я жадаў і баяўся. У такі складаны час мяне падтрымлівалі прыклады іншых бацькоў і асабліва Пісанне. “У любові няма страху”, – паўтараў я сабе словы з Першага паслання св. Яна. “Выплыві на глыбіню”, – паўтараў і гэтыя словы. І прымусіў сябе даверыцца. Тым больш, што ў мяне была добрая матывацыя, каб даверыцца.

І вось Бог даў нам дзіця, якому ўжо амаль 3,5 гады. Гледзячы на яго і на нашыя з ім стасункі, я атрымліваю адказ, што давер да Бога прывёў мяне туды, дзе я сам ужо тата. І ўсё больш разумею, што значыць самому быць добрым татам і што значыць “Любячы Тата” ў адносінах да нашага Бога.

# КАЛІ НЕШТА НЕ РАЗВІВАЕЦЦА, НЕ РАСЦЕ, ЯНО ПРОСТА ДЭГРАДУЕ

*працяг са с. 1*

**На тэму развіцця веры мы пагаварылі з а. Андрэем Кротам, пробашчам грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай у Гродне, аўтарам перадачы "Хрысціянства і беларуская літаратура" на Ватыканскім радыё, выкладчыкам Катэхетычнага каледжа імя св. Казіміра.**

*Кацярына Паўлоўская*

***"Веру сваю заўсёды трэба развіваць",*** – адзначыў на пачатку а. Андрэй. Ён звярнуў увагу на тое, што меркаванне, нібы ў Царкве развіцця быць не павінна, з'яўляецца стэрэатыпам, і шкада, што часам так здараецца: ***"Калі нешта не развіваецца, не расце, яно проста дэградуе"***.

А. Андрэй падзяліўся з намі сродкамі-парадамі для развіцця веры, якія сфармуляваў яшчэ яго папярэднік а. Віктар Данілаў у кантэксце тэалогіі духоўнасці.

**Іх можна раздзяляць на пазітыўныя і негатыўныя. Да першых адносяцца:**

**1. Пазнаваць праўду веры.** Для гэтага, асабліва ў сённяшнія часы, існуе вельмі шмат сродкаў. Калі хтосьці любіць чытаць – калі ласка, хрысціянскай літаратуры вельмі шмат. Для мяне заўсёды матывацыйнымі з'яўляюцца жыцці святых. Кожны з нас мае ў кішэні смартфон. Сёння існуе шмат розных хрысціянскіх відэа, якія можна замест нейкага вечаровага серыяла паглядзець. Ідучы кудысьці ці едучы – паслухаць падкаст ці казанні, якія ёсць у інтэрнэце. І так пазнаваць праўды веры, якія мы ведаем з катэхізіса, але пазнаваць іх больш глыбока і ў дачыненні да сучаснага жыцця: як яны ў ім могуць стасавацца.

**2. Дзякаваць.** Часамі, калі людзі прыходзяць на споведзь і кажуць, што ёсць нейкія праблемы ў жыцці і ў веры, тады я раю на рахунку сумлення ці падчас вячэрніх малітваў знайсці адзін, два, тры моманты, за якія канкрэтна трэба падзякаваць Богу. Не проста сказаць: "Дзякуй Табе, Божа, за тое, што ўсё ў мяне добра", але падзякаваць, напрыклад, за тое, што сёння зрабіў добры ўчынак, што дапамог чалавеку (ці наадварот, што чалавек дапамог табе), што была выслухана малітва. Такія моманты ў нашым жыцці здараюцца, калі адчуваем, што гэта дзеянне Бога. Тады наша вера ўмацоўваецца.

**3. Практыкавацца ў актах веры.** Гэта, у першую чаргу, адбываецца ў перажыванні намі сакрамантаў. Калі перажываем Эўхарыстыю, мы практыкуемся ў веры, што гэты хлеб і гэтае віно сапраўды становяцца Целам і Крывёю Хрыстовымі. Калі прыходзім на споведзь, практыкуемся ў тым, каб паверыць сапраўды, што грахі, якія мы сказалі святару, будуць адпушчаныя. Акрамя таго, мы ўмацоўваем, паглыбляем веру праз разважанні над яе праўдамі, вядомымі нам, над фрагментамі Святога Пісання. Напрыклад, чытаем прыпавесць пра Божую міласэрнасць, пра міласэрнага айца ці, як кажуць, пра блуднага сына – практыкуемся ў тым, каб паверыць, што сапраўды Бог, які ёсць на Небе, становіцца ці з'яўляецца міласэрным Айцом, што прымае нас, даруе нашы грахі.

**4. Ва ўсім бачыць Божае кіраўніцтва.** Часта людзі кажуць такія, можа быць, банальныя і простыя прымаўкі, як, напрыклад, "Няма нічога дрэннага, што б не стала добрым". На самой справе для хрысціян гэта такі штуршок, каб бачыць ва ўсім Божы Провід. Я не кажу пра тое дрэннае, што здараецца па нашай няўважлівасці, з-за нашых грахоўных паводзін, хаця і ў гэтым выпадку Бог можа пакіраваць да чагосьці добрага.

Адзін мой сябар, які перажыў цяжкі кавід, быў на мяжы жыцця і смерці, нядаўна так казаў: "Я зараз ні за што ў жыцці не перажываю. Ведаю, што Бог мяне не пакінуў. Ён мае для мяне нейкую мэту, нейкі план, я павінен яшчэ штосьці ў сваім жыцці зрабіць".

**5. Быць удзельнікам "крыжовага паходу" супраць "бязвер'я".** Такі выраз выкарыстоўваў калісьці мой папярэднік а. Віктар Данілаў. Думаю, гэта важная справа для нас, хрысціян, таму што мы часта веру пакідаем нібы сваю асабістую прэрагатыву, сваё асабістае дзівацтва: я вось веру, і ўсё. На самой справе мусім яе распаўсюджваць, дзяліцца, мусім быць апосталамі веры. Канешне, тут таксама шмат нюансаў і шмат трэба вучыцца: як, што, каму гаварыць. Тым не менш, не заставацца абыякавымі да таго, што вакол нас ёсць людзі няверуючыя, і карыстацца сваёй верай тады, калі гэтым людзям трэба дапамагчы.



Напрыклад, калі мы ведаем, што наш няверуючы сябар знаходзіцца ў цяжкай сітуацыі, можна сказаць яму проста: "Я буду за цябе маліцца". Як ён на гэта адрэагуе, так адрэагуе. Ці сказаць: "Звярніся да Бога, памаліся сам, і я за цябе буду маліцца". Каб чалавек у гэтай сітуацыі таксама адчуў, што яго "нявер'я" яму не хапае, што Бог яму патрэбен.

**6. Прасіць аб веры ў Бога.** Апошні, але вельмі важны сродак. Вера – гэта не толькі рэзультат нашага інтэлектуальнага высілку, але і вынік Божага дзеяння ў нас. Таму, калі адчуваем, напрыклад, нейкія спакусы ў веры, або што наша вера стала мёртвай, або проста не развіваецца, трэба паваліцца, папрасіць у Бога. Думаю, Ён дасць нам ласку ці нейкі штуршок – інтэлектуальны, духоўны, – каб наша вера развівалася.

# СЯМЕЙНЫЯ ПРАПАНОВЫ НА АДВЭНТ



**Адвэнт з'яўляецца вельмі важным часам для пабудовы і ўмацавання сямейнай супольнасці як хатняга Касцёла. Добры Адвэнт спрыяе добраму і асэнсаванаму перажыванню Каляд. І гэтаму могуць дапамагчы адвэнтавыя традыцыі, якія на працягу вякоў існуюць у нашым грамадстве. Аднак важна, каб сям'я атаясамлівала сябе з гэтымі традыцыямі, ведала іх і захоўвала, тым самым даючы дзецям прыклад таго, як можна верна і з пакорай чакаць прышэсця Хрыста.**

*С. Веранікa Блізнюк*

**1. МАЛІТВА Ў СЯМЕЙНЫМ КОЛЕ**

Супольная малітва ўмацоўвае нашы адносіны з Богам і запальвае нас унутрана. Гэта простая, але дзейсны шлях, каб сярод штодзённых клопатаў затрымацца разам і паразмаўляць з Богам, праз што адкрыць свае сэрцы адзін на аднаго. Дзеля гэтага можна разам з дзецьмі напісаць інтэнцыі на кожны дзень Адвэнту і даць магчымасць кожнаму члену сям'і скласці ў гэтай інтэнцыі малітву.

**2. ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ПІСАННЯ**

Пастанова штодня разважаць над Божым словам можа быць адным з лепшых рашэнняў на гэты час для ўсёй сям'і. Урыўкі са Святога Пісання на час Адвэнту вельмі багатыя сімволікай. Таму варта разам з дзецьмі прачытаць дадзены на дзень фрагмент і паспрабаваць растлумачыць (шмат каментарыяў можна знайсці на старонках інтэрнэту). Пасля даць дзецям магчымасць знайсці сімвал, схаваны ў Божым слове і паспрабаваць адпаведна прымяніць яго ў духоўным жыцці. Перад гэтым можна падрыхтаваць такі сімвал, каб дзеці маглі таксама візуальна ўспрымаць яго важнасць.

**3. ВЫТРЫМКА Ў ДОБРЫХ ПАСТАНОВАХ**

Падчас Адвэнту можна паспрабаваць накіраваць намаганні ўсіх членаў сям'і на такія пытанні, як уважлівае слуханне, цярплівасць, адкрытасць на іншых. Напрыклад, за сталом мы слухаем іншых, не перапыняючы іх; спачатку даём ежу іншым, а потым сабе; адмаўляемся ад адной лыжачкі цукру або ад якой-небудзь тэлепраграмы; задавольваемся тым, што маем, не ныючы і не просячы. Такія пастановы могуць быць як індывідуальнымі, так і сямейнымі. Уся сям'я, у тым ліку і бацькі, маюць адну мэту. Безумоўна, клопат пра добры прыклад і страх перад братэрскімі папрокамі выдатна матывуюць нас.

**4. ПАДРЫХТОЎКА ЛІХТАРЫКАЎ І СУМЕСНЫ ЎДЗЕЛ У РАРАТАХ**

Рараты – звычайна ранішнія службы ў поўнай цемры. Важна звярнуць увагу дзіцяці на Раратку – галоўную свечку пры алтары, што сімвалізуе Марыю, якая ў цёмны час Адвэнту ў сваім улонні нясе святло Хрыста – Сапраўднае Святло.

На Рараты прыходзяць з ліхтарамі, з унутранага боку абклеенымі каляровай паперай, што нагадваюць гатычныя вітражы з хрысціянскай сімволікай або біблейскімі сцэнамі. З практыкі ведаю, што дзеці вельмі ганарацца ліхтарыкамі, падрыхтаванымі сваімі рукамі, асабліва калі яны зроблены з дапамогай бацькоў.

**5. ВАНДРОЎНАЯ ФІГУРКА МАЦІ БОЖАЙ**

У многіх парафіях існуе звычай напрыканцы раратняй Імшы даваць камусьці з дзяцей фігуру Маці Божай, якую яны забіраюць дадому, а на наступны дзень вяртаюць у святыню. Звычайна гэта адбываецца праз лёсаванне картак з імёнамі хлопцаў і дзяўчат, якія напярэдадні выконвалі адмысловае раратняе заданне. Дома ўся сям'я перад фігурай цэлебруе сямейную літургію, выбіраючы найбольш адпаведныя для сябе духоўныя практыкі.

**6. АДВЭНТАВЫ КАЛЯНДАР**

Сёння існуе шмат магчымасцей набыць гатовы каляндар. Звычайна ён рыхтуецца з сюрпрызамі і падарункамі. Асабіста я не з'яўляюся прыхільніцай такіх календароў. Мне здаецца, што гэта толькі прывучае дзяцей рабіць штосьці за ўзнагароду, і тое, чаго яны найбольш чакаюць у гэты момант, – атрымаць падарунак. Адвэнтавы каляндар лепш зрабіць самастойна. Напрыклад, гэта могуць быць пустыя скрынкі, у якія будуць унесены адвэнтавыя думкі і пастановы (удзел у Раратах, рэкалекцыях, дапамога патрабуючым, калядныя віншаванні). Тады дзеці з нецярпеннем чакаюць адкрыцця Адвэнтавага календара, каб здзейсніць учынак любові.

**7. ТРАДЫЦЫЙНАЯ БАТЛЕЙКА З СЕНАМ ДОБРЫХ УЧЫНКАЎ**

Цікавым момантам падрыхтоўкі сям'і да Божага Нараджэння можа быць момант укладання ў яслі сена добрых учынкаў. Гэты звычай паходзіць з Францыі. У першую нядзелю Адвэнту сям'я рыхтуе пустыя яслі. Увечары кожны дзень падчас малітвы дзеці разам з бацькамі робяць рахунак сумлення за пражыты дзень і за кожную добрую справу, якую ўчынілі на працягу дня, кладуць у яслі саломінку. Гэта дар кожнага члена сям'і для Божага Немаўляці. Пры гэтым можна нагадаць дзецям, што чым больш у яслях сена, тым мякчэйшым будзе для Дзіцяці падрыхтаванае месца. Гэта пабуджае выконваць як мага больш добрых учынкаў і станавіцца чуллівымі да бліжніх.

**8. ПАДРЫХТОЎКА ВІНШАВАЛЬНЫХ ПАШТОВАК**

Сёння звычайнай тэндэнцыяй з'яўляецца адпраўленне на Раство кароткіх тэкставых паведамленняў: "З Калядамі!". Традыцыя пісаць паштоўкі і лісты знікае. Таму добрым можа быць звычай у сям'і разам рабіць калядныя віншавальныя паштоўкі, улічваючы іх рэлігійны характар. Важна ўзгадаць пра тых сваякоў і сяброў, каму найбольш патрэбна ўвага.

**9. СЛОІК ПАДЗЯКІ**

Я лічу, што ўдзячнасць трэба практыкаваць кожны дзень, бо тады нам лягчэй цаніць тое, што маем, а не засяроджвацца на жыцці іншых. Можна дома падрыхтаваць слоік і кожны дзень кідаць туды паперку з тым, за што мы ўдзячныя ў дадзены дзень. Калі ёсць маленькія дзеці, можна з імі паразмаўляць пра гэта. Штодня пытацца ў іх, чым яны задаволены або за што хочуць падзякаваць, што ім больш за ўсё спадабалася сёння. Напэўна, адказы могуць нас здзівіць, здацца смешнымі, але запісаць іх варта, паказваючы, што яны для нас важныя. Дзеці самі па сабе поўныя ўдзячнасці і радасці, але іх варта навучыць засяроджвацца на гэтым. Такая практыка таксама навучыць шанаваць працу іншых. У першы дзень Каляд уся сям'я можа разам прачытаць карткі з падзякамі.

ЛІСТЫ ЧЫТАЧОЎ

# ВСЁ ОТ НЕГО И ИМ СОТВОРЕНО…

*Екатерина Пахолкина*



Вселюб. Название какое… Теплое, всеобъемлющее любовью. Сюда стремится моя душа уже в третий раз за этот непростой 2021 год. Среди боли, страдания, болезней, отчаяния, есть Тот и Та, которые пребывают в самой гуще событий, в самой сердцевине трагедий – Бог и Его Пречистая Матерь. Увидев и почувствовав эту любовь в местечке Вселюб, невозможно остаться равнодушным. Поэтому, увидев расписание реколлекций на тему «Женственность – Божий дизайн», я поняла, что должна попасть туда обязательно. Сердце чувствовало, что, скорее всего, я услышу там какие-то важные для меня слова, что еще больше приближусь к тесным и доверительным отношениям с Богом и Богородицей.

На самом деле это мои первые в жизни реколлекции, так как я православная. Я не побоялась, не постеснялась поехать, потому что мои отношения с Христом важнее, чем предрассудки, придуманные людьми. Приехав туда, понимаешь, что для действия Духа Святого нет границ и «Дух дышит, где хочет». На этих реколлекциях оказались все те, кто бесконечно открыт на отношения с Богом, на Его волю, и кто трепетно относится к Марии – нашей дорогой Небесной Мамочке. Это совсем не значит, что те, кто туда не попал – не такие, совсем нет! Это значит лишь то, что у Бога бывает всё вовремя, Он никогда не спешит и не опаздывает.

Так было и со мной. Я работаю медицинской сестрой, дежурю сутками, и возможность того, что у меня будет три свободных дня для поездки, совсем невелика. Но всё сложилась наилучшим образом. И только после начались «приключения» – остро встал вопрос, как добраться до Вселюба, потом всё уперлось в финансовые проблемы, а ближе к началу духовной встречи и вовсе стало понятно, что, видимо, я туда не доберусь. Но, как сказал духовный лидер реколлекций о. Виталий Цыбульский: «Бог своих не оставляет». Я молилась, уповала на волю Божью и, конечно же, верила, что, если мне нужно там быть, я буду. Так и произошло, помощь пришла оттуда, откуда я совсем не думала – от моего пациента! Он как раз в нужное мне время возвращался домой. Это было таким чудом!

Сама тема женственности сейчас довольно актуальна в обществе, но часто всё сводится к тому, что женственность – это платья, длинные волосы и томный взгляд. Но если мы возьмём женственность как дар, то она раскрывается как то, что внешне незаметно: как мягкое сердце, улыбка, доброе слово, жертвенность, милосердие, служение другому человеку. И для меня это стало основным открытием! Каждый день у нас проходил под «лозунгом» служения ближнему. И это было удивительно, потому что таким образом Бог открывал каждую из нас как драгоценную и прекрасную жемчужину в Его глазах! А Богородица, как самая женственная из нас, находила, где и кому мы могли бы послужить: будь-то торжественная встреча Ее икон, путешествующих по Беларуси, служение пилигримам, которые шли первым паломничеством к Матери Божьей Новой Жизни, или служение друг другу в каждом дне любовью, выраженной в действии. Как же было приятно наблюдать за каждой возлюбленной Дочерью Бога, сколько там было нас: женщин, девушек, девочек. У каждой такая глубина, такая красота и внешняя, и внутренняя, такие таланты, что понимаешь – для каждой из нас есть Божий план. Есть дорога, по которой пройдет только та, которой этот путь уготован. Кто-то раскрывается в пении, кто-то в разлитии супа для пилигримов, кто-то своей улыбкой, кто-то стихами, кто-то выпечкой… И сколько нас таких разных! Как говорится: когда таланты и воля Бога совпадают – Лоза растёт.

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

***5 снежня – II Нядзеля Адвэнту***
***Лк 3, 1–6***

У пятнаццаты год панавання Тыберыя цэзара, калі Понцій Пілат панаваў у Юдэі, а Ірад быў тэтрархам у Галілеі, Філіп, брат ягоны – тэтрархам у Ітурыі і Траханідскім краі, а Лізанія – тэтрархам у Абіленах; пры першасвятарах Анне і Каяфе, было скіравана слова Божае да Яна, сына Захарыі, у пустыні.

І ён абходзіў усе ваколіцы Іардана і прапаведаваў хрост пакаяння для адпушчэння грахоў, як напісана ў кнізе прамоў прарока Ісаі: “Голас таго, хто кліча ў пустыні: падрыхтуйце дарогу Пану, раўняйце сцежкі Яму! Кожная даліна ўзвысіцца, кожная гара і пагорак панізяцца, і выбоістыя дарогі стануць раўнінай, і ланцугі гор – далінаю. І ўбачыць кожнае цела Божае збаўленне”.

## Практычныя парады

*Ян быў незвычайным прарокам. Ён мала гаварыў, але прыцягваў увагу навакольных сваім ладам жыцця. Калі дасягнуў сталага ўзросту, пайшоў жыць у пустыню, насіў вопратку з вярблюджай воўны і скураны пояс вакол бёдраў, а ежай яго былі саранча і дзікі мёд. Кожны дзень Ян прыходзіў да Іардана і заклікаў да навяртання словамі прарока Ісаі: “Падрыхтуйце дарогу Пану, раўняйце сцежкі Яму! Кожная даліна ўзвысіцца, кожная гара і пагорак панізяцца, і выбоістыя дарогі стануць раўнінай, і ланцугі гор – далінаю” (параўн. Іс 40, 3–5).*

*Святы Ян заклікаў да навяртання, якое, перш за ўсё, з’яўляецца аддзяленнем сябе ад граху і ўсяго, што вядзе да яго. Таму прапаведаваў “хрост навяртання дзеля адпушчэння грахоў”. Бо немагчыма штосьці змяніць, не парваўшы з тым, што зневажае чалавека. А грэх, з’яўляючыся аддаленнем ад Бога і выканання Яго волі, заключанай у запаведзях, з’яўляецца, між іншым, прыніжэннем чалавека, дзіцяці Божага. Ён выклікае пачуццё віны, прыгнятае да зямлі таго, хто яго здзяйсняе. Навяртанне – гэта, найперш, навяртанне сэрца, шчырая агіда да граху і рашэнне парваць з ім.*

*Строгі прарок Адвэнту не павінен нас палохаць, бо ён толькі падказвае, як можна абраць Бога ўсім сваім жыццём. Паказвае, як выйсці ў пустыню цішыні і адзіноты, адкінуць выгоды сучаснага свету, каб убачыць прыход Бога. Заахвочвае нас выраўноўваць жыццёвыя дарогі ў адпаведнасці з Божымі запаведзямі.*

*Дык давайце выраўняем сцежкі нашага жыцця. Давайце выраўняем сцежкі ўзаемнай добразычлівасці ў нашых сем’ях, пададзім адзін аднаму руку ў жэсце прымірэння і забыцця ўсіх крыўдаў.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне адкрыць сваё сэрца на ўсе парады св. Яна Хрысціцеля, каб я мог выбіраць Цябе ўсім сваім жыццём!*

***12 снежня – III Нядзеля Адвэнту***
***Лк 3, 10–18***

Калі Ян навучаў над Іарданам, пыталіся ў яго людзі: “Што мы павінны рабіць?”. Ён сказаў ім у адказ: “Хто мае дзве вопраткі, няхай аддасць таму, хто не мае; і хто мае ежу, няхай зробіць тое самае”. Прыйшлі і мытнікі хрысціцца і сказалі яму: “Настаўнік! Што мы павінны рабіць?”. Ён адказаў ім: “Нічога, што больш за дазволенае вам, не патрабуйце”. Пыталіся ў яго таксама і жаўнеры, кажучы: “А мы што павінны рабіць?”. Ён адказаў ім: “Нікога не крыўдзіце, не абвінавачвайце несправядліва і задавольвайцеся сваёю платаю”. Калі ж народ чакаў, і калі ўсе разважалі ў сэрцах сваіх пра Яна, ці не Хрыстос ён, Ян адказаў усім: “Я хрышчу вас вадою, але ідзе мацнейшы за мяне, якому я не варты развязаць раменьчык на сандалях Яго. Ён будзе хрысціць вас Духам Святым і агнём. Лапата Ягоная ў руцэ Ягонай, і Ён ачысціць гумно сваё і збярэ пшаніцу ў свіран свой, а мякіну спаліць агнём непагасным”. Шмат чаго іншага прапаведаваў ён, абвяшчаючы Добрую Навіну народу.

## Дарога да Бога

*Святы Ян Хрысціцель нагадвае, што падрыхтоўка да перажывання ўспаміну Божага Нараджэння – гэта не толькі перадсвяточныя клопаты аб запоўненні халадзільніка і ўпарадкаванні свайго акружэння, але, перш за ўсё, упарадкаванне сэрца і жыццёвых шляхоў. Блізкасць Пана прыспешвае нас падрыхтаваць месца для Яго. Трэба вяртацца ў Бэтлеем і радавацца ўсяму, што там адбылося, але сапраўдная блізкасць і сапраўднае нараджэнне Бога павінны адбывацца ў сэрцы, ачышчаным пакаяннем. Таму прарок пастаянна нагадвае нам, каб не забываліся аб гэтай падрыхтоўцы і не адкладвалі яе.*

*Навяртанне, якое рыхтуе да сустрэчы з Панам, які ўжо побач, павінна быць сапраўдным і паслядоўным, але яно магчыма для ўсіх. На гэта ўказвае вучэнне Яна Хрысціцеля, якое не патрабуе ад людзей, што прыходзяць да яго, учынкаў, якія немагчыма выканаць. Нават мытнікам і жаўнерам ён не загадвае кінуць сваю прафесію, а толькі павучае, каб нікога не крыўдзілі і задавольваліся тым, што маюць.*

*У кожным месцы нашай пілігрымкі можна знайсці дарогу да Бога, але яе трэба шукаць і адважвацца ўзысці на яе, а крокамі, якія вядуць па ёй, з’яўляюцца справядлівасць і любоў. Ян Хрысціцель гаворыць пра любоў як пра дзяленне з іншымі. Справядлівае выкананне абавязкаў і любоў, якая дзеліцца сваім дабром, – вось дарогі нашай сустрэчы з Панам, які побач.*

*Пане Езу Хрысце, дапамагай мне ў кожным месцы майго пілігрымавання знаходзіць дарогу да Цябе, а таксама мужна на яе ступаць!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ ВІТЭКУ**
*з нагоды імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну ў працы на ніве Пана, а таксама Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень і добразычлівых людзей побач.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Воранава*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДРЭЮ АГЕЛЮ**
*з нагоды імянін жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, шчасця. Няхай Вас абмінае смутак, радасць заўсёды Вам спадарожнічае, а цярплівасці і стойкасці хопіць на доўгія гады адданай душпастырскай працы.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Шчучына*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ РАДЗЕВІЧУ**
*з нагоды імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус блаславіць кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу і нястомна адорвае сваімі ласкамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена любоўю і супакоем.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Бярозаўкі*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНДРЭЮ ЗУЮ**
*з нагоды імянін жадаем патрэбных Божых ласкаў, доўгіх гадоў жыцця, благаслаўлення, мноства радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Дух Святы асвячае кожны дзень святарскай паслугі, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы заступнік апекуецца Вамі.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ліпнішак*

**ПАВАЖАНЫМ АЙЦАМ АНДРЭЮ ВРУБЛЕЎСКАМУ І АНДРЭЮ ЯДКОЎСКАМУ**
*з нагоды імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: поспехаў, натхнення, здароўя, усмешак, сонечных дзён. Няхай добры Бог адорвае Вас ласкамі, святы заступнік ахінае сваёй апекай і вядзе па шляху душпастырскага служэння, а Маці Божая нястомна чувае над Вамі і атуляе сваёй мацярынскай любоўю.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Гродна-Дзевятоўка*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ВАЛЬДЭМАРУ СЛОТУ**
*з нагоды імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў і супакой назаўсёды заснеюць у сэрцы.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Вялікай Бераставіцы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯЎГЕНУ УКЧУРОНІСУ**
*з нагоды дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай міласэрны Бог блаславіць на кожны дзень, дазволіць рэалізаваць усе планы і намеры, а таксама дапаможа ў пабудове нашай святыні. Моцнага здароўя, апекі Маці Божай, стойкасці ў пакліканні, дапамогі ў складаныя хвіліны, моцы Святога Духа ў жыцці, непахіснай надзеі, душэўнага супакою і ўсмешкі. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю і любоўю. Шчыра ўдзячны Вам за клопат аб парафіянах, а Вашай маме – за цудоўнага сына святара.*

*Вернікі, Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка", Маці ў малітве і Ружанцовыя колы парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ КАЗЛОЎСКАМУ**
*з нагоды імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус благаслаўляе Вас кожны дзень, Найсвяцейшая Панна Марыя атачае сваёй апекай, а Святы Дух дапамагае ў выкананні душпастырскага служэння. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады.*

*Парафіяне з Малой Бераставіцы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ РАМАНУ ЯЛОЎЧЫКУ**
*з нагоды 21-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Хрыстос, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць святарскую паслугу і нястомна адорвае сваімі ласкамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю.*

*Парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ ПЫШЫНСКАМУ**
*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, патрэбных Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены прамянямі Божай міласэрнасці і напоўнены Яго любоўю. Чэрпайце радасць з кожнай хвіліны, цешцеся сваёй паслугай і заўсёды ўсміхайцеся. Мы дзякуем Пану Богу за гады, праведзеныя з Вамі, і заўсёды з удзячнасцю памятаем пра Вас у малітвах ды сэрцах. Вялікі дзякуй за малітву, клопат і пашану да нас. Молімся, паважаем і ганарымся Вамі. Шчасці Божа маме за сына святара!*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Сэрца Пана Езуса ў в. Рандзілаўшчына*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АРТУРУ МАЛАФЕЮ**
*з нагоды дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Пан адорвае патрэбнымі ласкамі, Маці Божая апекуецца Вамі, а святы заступнік заўсёды будзе побач. Жадаем нязгаснага запалу ў душпастырскай паслузе, усмешкі на твары, сіл і натхнення ў служэнні Богу і людзям. Дзякуем за добрыя словы, уважлівасць і чуласць.*

*Вернікі парафіі Маці Божай Міласэрнасці, Гродна-Аўгустовак*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ РУДЗЕВІЧУ**
*з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі Маці Божай, стойкасці ў святарскім пакліканні, моцнага здароўя і руплівых парафіян. Няхай Бог блаславіць Цябе і абараняе. Памятаем пра Цябе ў сваіх малітвах.*

*Мама Антаніна, брат Дзмітрый і брат Генрых з сям'ёй*

**ПАВАЖАНАМУ СТАРШЫНІ КАСЦЁЛЬНАГА КАМІТЭТА СПАДАРУ УЛАДЗІМІРУ ШАНДРОХУ**
*з нагоды дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем душэўнага супакою, радасці, нястомных сіл, моцнага здароўя, шчасця, паспяховай рэалізацыі ўсіх планаў і добразычлівых людзей побач. Няхай Бог блаславіць кожны момант Вашага жыцця. Ад шчырага сэрца дзякуем Вам за паслугу на карысць нашай парафіі, дабрыню, зычлівасць і вялікае сэрца.*

*Парафіяне з Астрыны*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ КАНАПЕЛЬКУ**
ў сувязі са смерцю мамы перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Няхай міласэрны Бог прыме душу памерлай у сваё Валадарства, а Вам дасць сілы і надзею.

*Вернікі парафіі Мсцібава*

**Сусвету ва ўсе часы былі ўласцівы свае бедствы. Біч сучаснасці, між іншым, – анкалагічныя захворванні і праблема абортаў, пытанне якіх вельмі востра стаіць у соцыуме. Бог жа ў сваёй любові клапоціцца пра кожнага з нас, адказваючы на актуальныя патрэбы. Таму мы атрымалі асаблівых нябесных апекуноў: св. Джану Берэту Молу – заступніцу цяжарных маці і зачатых дзяцей, і св. Перэгрына Лазіозі – заступніка людзей, хворых на рак.**

# МАЛІТВА ПРАЗ ЗАСТУПНІЦТВА СВ. ДЖАНЫ БЕРЭТЫ МОЛЫ

Божа, наш Ойча, мы праслаўляем і благаслаўляем Цябе, таму што ў асобе Джаны Берэты Молы Ты дазволіў нам пазнаць жанчыну, якая як дзяўчына, жонка, маці і доктар з'яўляецца сведкай Добрай Навіны. Мы таксама ўдзячныя Табе за тое, што праз дар яе жыцця вучыш нас прымаць і паважаць кожнага чалавека.

Ты, Пане Езу, быў для яе найважнейшым арыенцірам: яна магла знайсці Цябе ў прыгажосці свету прыроды; разважаючы аб выбары ўласнага жыццёвага шляху, яна шукала Цябе і таго, як лепш Табе служыць; у сужэнскай любові стала знакам Тваёй любові да Касцёла і людзей; як і Ты, Добры Самаранін, яна спынілася побач з кожным хворым, малым і слабым чалавекам; па Тваім прыкладзе і дзеля любові аддала сябе, нарадзіўшы новае жыццё.




# МАЛІТВА АБ ЦУДЗЕ

Пане Езу, я стаю перад Табою такім, які я ёсць. Прашу прабачэння за мае грахі, шкадую пра іх, прабач мне, калі ласка. У імя Тваё я дарую ўсім тое, што яны зрабілі супраць мяне. Выракаюся сатаны, злых духаў і іх спраў. Аддаю сябе Табе, Пане Езу, цяпер і назаўсёды. Запрашаю Цябе ў сваё жыццё, прымаю Цябе як свайго Госпада, Бога і Адкупіцеля.

Вылечы мяне, змяні мяне, умацуй мяне целам, душой і розумам. Прыйдзі, Пане Езу, атулі мяне Тваёй найдаражэйшай Кроўю і напоўні Тваім Святым Духам. Я люблю Цябе, Пане Езу. Дзякую Табе. Я хачу ісці за Табой у кожны дзень свайго жыцця. Амэн.

Марыя, Маці мая, Каралева Супакою, святы Перэгрын, заступнік хворых на рак, усе анёлы і святыя, калі ласка, прыйдзіце мне на дапамогу.

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4358; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.